Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



НА «БЕЧАР УСПАМІНАЎ» 16 САКАВІКА, 2002,
У БЕЛАРУСКІМ РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІМ ЦЭНТРЫ Ў ТАРОНТА

ВІТАЮ З 84-мі ЎГОДКАМІ АКТУ 25 САКАВІКА, 1918 г!

Беларускай эміграцыі пасьля Другой Сусьветнай вайны наканаваным было (лёсам дадзена) ісьці за акіян, несьці з сабой, утрымоіўваць жывой і разьвіваць беларускую мову, культуру й цывілізацыю. Цывілізаванае грамадзтва ведае сваё мейсца паходжаньня, ведае свае карэньні, сваю прошласьць і глядзіць у будучыню, творыць трывалыя каштоўнасьці дзеля будучыні.

Як-жаж мы ў Канадзе спраўляемся з нашым пасланствам?
Паказьнікам можа быць вось гэты самы Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр у Таронта на Сан Клярэнс, якім мы, як домам свае беларускае сям'і, ганарымся, у царкве якога мы молімся, у залі якога адбываюцца нашыя зборкі, розныя імпрэзы, Урачыстыя сходы беларускіх нацыянальных сьвятаў. Паказьнікам можа быць франтовая сьцяна залі Цэнтру з выявамі беларускай нацыянальнай сымболікі - Пагоні й бел-чырвона-белага сьвягу; можа быць правая сьцяна залі з абразамі беларускіх дзеячоў , пачынаючы ад Рагвалода й Рагнеды; а за ёю царква-капліца Беларускае Аўтакэфальнае Праваслаўнае Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага зь ягопным сьвятым абразом, зь іконай Жыровіцкае Божае Маці, зь іконай Смаленскае Божае Маці , з Эвангеліем на беларускай мове.

Але, пачнем з пачатку. Прасочым ад пачатку па сяньня адну нітку, ці пасма нітак, асновы калярытнае тканіны-дывана беларускага нацыянальнага жыцьця ў Канадзе. Закранем толькі адно пытаньне, як беларусы Канады адносяцца да:

## ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ ГЕНАЦЫДУ Ў БЕЛАРУСІ,

### 1950 год - "I Accuse The Kremlin of Genocide of My Nation"

У 1950 годзе Згуртаваньне Беларусаў Канады пад старшынаствам тады Кастуся Акулы выдала друкам брашуру Старшыні Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка ў ангельскай мове " I Accuse The Kremlin of Genocude of My Nation" - «Я абвінавачваю Крэмль у Генацыдзе Маёй Нацыі». Брашура гэтая ў ангельскай мове на працягу гадоў гуляла ў нашай нацыянальнай , інфармуючай сьвет, дзейнасьці вялікую ролю.



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

## 1970-я гады - Мэмарандум у справе Дэкалянізацыі Савецкага Саюзу

У 1970-х гадох Саюз Беларускае Моладзі (СБМ) браў удзел ы «Караване Таронта», арганізуючы ў будынку Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру <u>павільён "MIENSK".</u> Павільён МЕНСК на працягу тыдня наведвала шмат розных людзей, якія аглядалі выставы, канцэрты, частаваліся беларускімі стравамі, размаўлялі зь беларусамі.

Вось у адзін такі дзень другой паловы 70-х гадоў у **павільёне МЕНСКУ** да маладога беларуса, сябры СБМ Паўлюка Паешкевіча, падыйшло некалькі мужчын, прадставіліся яны, як прадстаўнікі балцкіх і украінскае арганізацыяў, паінфармавалі, што яны запрашаюць беларусаў далучыцца да іх у справе прыгатаваньня Мэмарандуму да **Галоўнай Асамблей Задзіночанных Нацыяў** у справе **Декалянізацыі Савецкага Саюзу.** Паўлюк Пашкевіч тады сьвежа закончыўшы ўнівэрсытэт з Master Degree in Political Science - выявіў зацікаўленьне й сказаў, што беларусы далучацца, але сьпярша ён павінен аб гэтым пагаварыць з адпаведнымі беларускімі дзейнікамі. Госьці далі Паўлюку адрас і час наступнага паседжаньня ў гэтай справе.

Паўлюк Пашкевіч паразумеўся із Старшынём Рады БНР др. Вінцэнтам Жук-Грышкевічам. Дагаварыліся, што на паседжаньнях у справе Мэмарандуму да Галоўнай Асамблеі Задзхіночаных Нацыяў беларусаў будзе рэпрэзэнтаваць Паўлюк Пашкевіч, малады чалавек, роджаны й адукаваны ў Канадзе , зь ведаю ангельскае й беларускае моваў і адпаведнай адукацыяй.

Прадстаўнікі ўсіх пяцёх арганізацыяў рэпрэзэнтавалі свае сусьветныя арганізацыі. Такое тады ў беларусаў ня было. У паразуменьні зь беларускімі дзеячамі ў ЗША створана была беларуская сусьветная арганізацыя пад назовам: **«Канфарэнцыя Вольных Беларусаў» - "THe Conference of Free Byelorussians".** Стартшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч прапанаваў і запрашаў на старшыню «Канфарэнцыі Вольных Беларусаў» некага зь Нью Ёрку, із ЗША. Але ў ЗША не аказалася ахвотнікаў, бо спрва рабілася ў Канадзе. На старшыню «Канфюрюнцыі Вольных Беларусаў» быў запрошаны др. Барыс Рагуля, які згадзіўся быць старшынём, а маг. Паўлюк Пашкевіч - сакратаром арганізацыі.

Праца над стварэньнем Мэмарандуму - Рэзалюцыі праводзілася на працягу блізу двох гадоў. Усе паседжаньмні прадстаўнікоў 5-ох арганізацыяў наведваў беларускі прадстаўнік Паўлюк Пашкевіч. Пасьля кожнага паседжан.ня ён рэфэраваў справу Старшыні Рады БНР др. В. Жук-Грышкевічу і кансультаваўся зь ім. Справа ў тым, што да Мэамарандуму - Рэзалюцыі кожная арганізацыя павінна была даць свае гістарычныя матарыялы-дакумэнты. Вось матарыялам аб калянізацыі Беларусі Савецкім Саюэзам паслужыла праца былога Старшыні Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка ў ангельскай мове: **I ACCUSE THE KREMLIN OF GENOCIDE OF MY NATION,** копія першай бачыны арыгінальнае працы зьмешчана на 134 бачыне кнігі:

TO **THE UNITED NATIONS GENARAL ASSEMBLY, A RESOLUTION** with appended Documents concerning **THE DECOLONISATION OF THE UNION OF SOVIET SOCIALIST REPUBLICS. TORONTO - NEW YORK, 1978.**

Мэмарандум-Рэзалуцыя з дададзенымі дакумэнтамі была выдана кнігай і ў 1987 годзе перададзена асабіста прадстаўнікамі пяцёх арганізацый адпаведным

дзейнікам Задзіночаных Нацыяў ў Нью Ёрку. Беларускімі прадстаўнікамі ў Нью Ёрку былі сябры Рады БНР, між імі сябра Сакратарыяту (Ураду) БНР сп. Антон Шукелойць.

## 80-я гады - «Курапаты дарога сьмерці»

У палове 80-х гадоў у «Літаратуры й Мастацтве» чыталі мы артыкул Зянона Пазьняка «Курапары дарога сьмерці». Апісаныя ў артыкуле жахі ўскалыхнулі нас й зрабілі вялікі ўплыў на беларускую дзейнасьць. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку пад старшынствам др. Вітаўта Кіпеля заняўся выданьнем у ангельскай і беларускай мовах кнігі **КУРАПАТЫ,** якая выйшла друкам у Менску-Нью Ёрку ў 1993 годзе. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады супольна зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Канадзе ахвяравалі на выданьне кнігі КУРАПАТЫ панад 1,000.00 ам. дал.

## 1994-96 гады - Помнік Памяці Ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі

Адначасна Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады працуе над праектам стварэньня ў Беларускай прошчы , што ў “Martyrs' Shrine in Midland Ontario”, побач Беларускага памятнга Крыжа, Помнік Памяці Ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. На выкананьне задумы патрэбныя фінансавыя сродкі й дазвол. І як ува ўсіх шляхотных, ідэйных пачынах, так і цяпер нам шчодра памагала беларускае грамадзтва замежжа й БОГ. Помнік з вылітымі на бронзавай мэмарыяльнай табліцы напісамі паангельску, пабеларуску й пафранцуску, быў узьнесены восеньнмю 1995 году, і асьвячаны а. Аляксандрам Надсонам, Апостальскім Візытатарам для Беларусаў замежжа ў часе 8-га паломніцтва да Беларускага памятнага Крыжа ў чэрвені, 1996 году.

## 1998 hod - “Canadiens for a Genocide Museum”

У 1998 годзе ККБК стаўся сябрам новастворанай агульнаканадзкай арганізацыі “Canadians for a Genocide Museum” - «Канадыйцы за Музэй Генацыду». Адным із заданьняў арганізацыі «Канадыйцы за Музэй Генацыду», было і дамаганьне ўнесьці ў праграму сярэдніх школ Антарыя прадмет - **Genocide Studies.** У выніку стараньняў й дзеля гэтае мэты ў **2000 годзе** была нагода сябром-арганізацыям «Канадыйцы за Музэй Генацыду» выслаць да: **York Region District School Board, Genocide Studies,** брыфы на тэму генацыду дакананага над іхнімі народамі. З гэтае нагоды Старшыня ККБК др. Раіса Жук-Грышкевіч выслала 15 травеня, 2000 г. да **York Region District School Board, Genocide Studies** брыф на тэму: **“Genocide by Communists and Nazis in Belarus”.** Да брыфу далучаны былі дзьве карты Беларусі з напісамі беларускай лацінь.ніцай.

**2001 год - Тыдзень памяці ахвяраў генацыду.**

**1. «Зьнішчньне беларускай гісторыі»**

Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады ў сваім Камунікаце Но 2, за люты 2001 году пісаў: «Мы беларускае грамадзтва Канады будзем ўшаноўваць памяць нашых сучасьнікаў і продкаў , што сталіся ахврай генацыду ў Беларусі. Будзем пазнаваць гісторыю нашага краю, гісторыю жыцьццяў ахвяраў генацыду ў Беларусі.» І дзеля гэтага апублікаваў дaслоўна дасканалую працу **доктара гістарычных навук, прафэсара АНАТОЛЯ ГРЫЦКЕВІЧА:**

**«ЗЬНІШЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ»**

**2. «Памяці ахвяр генацыду ў Беларусі»**

Вынікам нашага сяброўства ў арганізацыі «Канадыйцы за Музэй Генцыду» было й адзначэньне 1-га красавіка 2001 году **«Тыдня памяці ахвяраў генацыду».** У праграму сьвяткаюваньня, якое арганізаваў Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта, увайходзілі: Сьв. Літургія й Паніхіда ў БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага, і Урачысты сход, зьместам якога былі два даклады Старшыні й Заступніка Старшыні ККБК др. Руслана Качаткова. Галоўным быў даклад др. Раісы Жук-Грышкевіч. **«Памяці ахвяраў генацыду ў Беларусі».**

**3. Салідарызацыя з і матарыяльная ды маральная падтрымка «Абаронцам Курапатаў»** выражана й у допісах Раісы Жук-Грышкевіч: **«Абаронцы гонару нацыі» і «Можна маліцца бяз словаў»,** надрукаваных у «Нашай Ніве» ў нумарах: 46, за 12 лістапада, і 52-53, за 28 сьнежня, 2001.

**2002 год - Пажаданьне, каб і ЗБК сталася сябрам арганізацыі**
**"CANADIANS FOR A GENOCIDE MUSEUYM"**

Каб пра Беларусь сьвет ведаў і памятаў, нам трэба дзе мага быць прысутнымі, разам зь іншыні этнічнымі групамі дзейнічаць і адны ад другіх вучыуцца.

Вязка нітак асновы калярытнае тканіны беларускага жыцьця ў Канадзе не перарываючыся йдзе з 20-га ў 21-е стагодзьдзе. Памагай нам Божа!

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

Бэры, Канада , 15 травеня, 2002.

Др. Раіса Жук-Ґрышкевіч
Былы Старшыня ЗБК і ККБК